693_632.qxd 11/1/2023 10:23 PM Page 1 (3,1)



Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 11(693)
Лістапад 2023 г.

# Сустрэча зь Зянонам Пазьняком у Брукліне

У нядзелю, 29 кастрычніка, у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася сустрэча з палітычным лідарам Нацыянальна-Вызвольнага Руху "Вольная Беларусь", пісьменьнікам і паэтам сп. Зянонам Пазьняком.

Сп. Зянон Пазьняк пачаў з палітычнай тэмы і ўзгадаў пра тое, што напярэдадні ў гэтай жа залі прайшла імпрэза памяці дзеячаў беларускай культуры, якія былі расстраляныя ў Менску і ў Курапатах 29-30 кастрычніка 1937 году. "Фактычна тады была створаная сыстэма вынішчэньня нацыі, якая ў 1930-я гады дзейнічала як гадзіньнікавы мэханізм. Быў створаны спэцыяльны тэрмін, эўфэмізм "вораг народу", які меў унівэрсальнае ўсеахопнае значаньне патэнцыйнай ахвяры, якой мог зрабіцца абсалютна кожны падданы Саветаў. З Масквы спускаліся пляны па колькасьці "ворагаў народу", і яны разьмяркоўваліся па акругах і раёнах. Асобную ўвагу каты надавалі менавіта беларускім арганізацыям, што лічыліся сталінскім кіраўніцтвам небясьпечнымі й непажаданымі. Так была вынішчана беларуская нацыянальная інтэлегенцыя, зьнікла 90% культурніцкай эліты грамадзтва. Зьнішчаліся цэлы калектывы, як тэатар У. Галубка, зь якога жывым застаўся толькі адзін актор. Ня стала беларускіх археолягаў. Рэпрэсіі пачаліся значна раней, у 1920 годзе, ад самага пачатку кансалідацыі савецкай улады ў Беларусі, і сыстэма была закладзеная ўжо тады, а ў 1937-38 годах размах рэпрэсіяў дасягнуў найвышэйшай кропкі. Праз увесь савецкі й постсавецкі час гэтая сыстэма была захаваная, і цяпер яна запатрабаваная ізноў. Толькі замест "вораг народу" прыдуманы новы эўфемізм – "экстрэміст". Гэта таксама адвольная, зручная ўладам катэгорыя. У яе можа трапіць кожны непажаданы, але ў прынцыпе ад назову "экстрэміст" ня можа быць гарантаваны ніводзін грамадзянін.

Калі зь нейкай прычыны пэўная асоба ці група робіцца небясьпечнымі для рэжыму – яны абвяшчаюцца "экстрэмістамі" й падпадаюць пад рэпрэсіі. Турма, лягер робяцца інструмэнтам зьнішчэньня асобы праз пагрозу новага тэрміну зьняволеньня, спэцрэжым, карцар, зьбіцьцё, шкодныя ўмовы, сваволю ў дачыненьні да правоў зьняволенага і шэраг іншых рэчаў. І гэта ёсьць ня што іншае, як сыстэма генацыду рэжымам сваіх суайчыньнікаў. Рэпрэсіі могуць быць нават рэтраспэктыўнымі, прымаецца закон пра асуджэньне ўжо не жывучых асобаў, экстрэмістамі робяцца нават клясыкі, як Дунін-Марцінкевіч. І заадно экстрэмістам становіцца дасьледчык ягонай творчасьці, наш сучасьнік Язэп Янушкевіч. Гэта паступовае прывучэньне грамадзтва да адкіданьня сваіх традыцыяў і каранёў. Робіцца гэта з дапамогаю штатных сэксотаў, як сумнавядомая Бондарава, што вышуквае "нацыяналістычную" крамолу ў беларускай мове, у спалучэньні колераў або ў помніку Ларысе Геніюш – і таксама сэксотаў пазаштатных. Як і ў сталінскія часы, людзі шукаюць мэтад самазахаваньня: здасі некага – і сам заробіш індульгенцыю ад арышту, але – толькі на нейкі час. Зьнішчаныя сотні грамадзкіх арганізацыяў, зьліквідаваныя палітычныя партыі. А ўсёй гэтай сыстэмай дырыгуе Масква. Існуе мноства прарасейскіх арганізацыяў, што ўзьдзейнічаюць на моладзь, спрабуюць фармаваць прарасейскую пазыцыю. Але найгалоўным інструмэнтам ёсьць школа – праз падкрэсьліваньне таго, што "беларусы ёсьць насамрэч рускія", праз увядзеньне новых падручнікаў гісторыі, дзе з ног на галаву ставяцца факты, дзе абмазваецца брудам усё нацыянальна беларускае. Цяжар і страты цяпер надзвычай вялікія. Тысячы ў турмах і лягерах, сотні тысяч – выехалі на чужыну".

Прамоўца падкрэсьліў, што небясьпеку сёнешняга стану рэчаў ён прадказваў яшчэ ў сярэдзіне 1990-х гадоў, калі апублікаваў артыкул "Аб расейскім імпэрыялізме і ягонай небясьпецы". У той час людзі лічылі тую пагрозу фантомнай, нявартай увагі, але цяпер цалкам памянялі сваю апінію – але магчымасьці прадухіленьня былі змарнаваныя. Цяпер усё стала адкрыта і зразумела, але цяпер народ мае пабачыць на ўласныя вочы і зразумець, што зь ім вырабляюць, і хто ёсьць ягоны сапраўдны вораг.

Як супрацьстаяць, як абараніць Бацькаўшчыну? Ёсьць такі добры лёзунг: "Беларус Беларусу Беларус". Нам трэба адкінуць усе палітычныя спрэчкі і яднацца. Палітычныя інтарэсы ня могуць быць вышэй нацыянальных. І мы ў пэўным сэньсе – частка агульнага змаганьня.



Але лёс Беларусі вырашаецца ў самой Беларусі, і там нам трэба вырошчваць інтэлегенцыю, і гэта ёсьць найважнейшая справа. Ёсьць сфэра – сям'я, сябры – у якую дзяржава ня мае непасрэднага доступу. І нам трэба гадаваць асяродак, весьці адукаваньне, фармаваньне непадцэнзурных паглядаў. Трэба зразумець, што нас ня будзе, калі ня будзе нашай мовы. Важна, каб людзі ня страцілі надзеі.

Ва ўмовах акупацыі важна захаваць сябе і сілы. Людзі вымушаныя прыстасоўвацца, але трэба захаваць унутраную сыстэму і разьвіваць яе. На эміграцыі ў гэтым сэнсе лягчэй, і цяпер на эміграцыі сабраліся немалыя сілы. Калі ў Беларусі пачаўся ўздым, быў сфармаваны Нацыянальны сакратарыят, задачай якога стала падрыхтоўка Народнага руху "Вольная Беларусь". Утвораныя сойм і ўправа, зарэгістраваная фундацыя. "Вольная Беларусь" ужо шмат дапамагла беларускім ваярам ва Ўкраіне, Палку Каліноўскага.

***заканчэньне на бачыне 3***

693_632.qxd 11/1/2023 10:24 PM Page 3 (1,2)



# Сустрэча са Зьмітром Лукашуком

У нядзелю 29 кастрычніка на Мангэтане ва ўкраінскаім рэстаране "Стріча" адбылася сустрэча з аўтарам сэрыі кнігаў "Беларуская нацыянальная ідэя" журналістам "Эўрарадыё" Зьмітром Лукашуком. Напачатку імпрэзы ён коратка распавёў пра свой праект "Беларуская нацыянальная ідэя" – гэта пошук каштоўнасьцяў сучаснага жыхара Беларусі, што вылучаюць беларусаў сярод іншых нацыяў. Прэзэнтуючы трэці выпуск кнігаў праекту, ён адзначыў, што намацваць нацыянальную ідэю – і патрэбна, і цікава. Думкі тых, хто ўзяў удзел у праекце, канешне, іхныя собскія развагі й перакананьні, але яны робяць уплыў на яго як аўтара праекту.

Наагул стымулам да развагаў на гэты конт сталі падзеі ва Ўкраіне, калі ў 2014 годзе там была акупаваная "братнім народам" частка ўсходніх земляў і паўвыспа Крым. Але Ўкраіна не скарылася, большасьць грамадзтва выступіла за вяртаньне тых земляў й змаганьне за тэрытарыяльную цэласьць краіны. "І тады ў мяне ўзьнікла пытаньне: што, калі зьявіцца нейкі правакатар і заявіць: "Вось тут будзе Віцебская Народная Рэспубліка, і яна пойдзе ў Расею". Як адрэагуюць беларусы, які будзе адказ на падобныя акцыі, што ўтрымае Беларусь разам, і што – агульная мэта, ідэалы – можа абараніць ад агрэсіі, падобнай расейскай". У 2018 г. на "Эўрарадыё" і паўстаў такі праект, каб зафіксаваць развагі на тэму нацыянальнай сьведамасьці і нацыянальнай ідэі. Суразмоўцамі вырашылі зрабіць ня толькі мысьляроў, філязофаў ды іншых экспэртаў. Важна ўлічыць таксама апініі самага шырокага спэктру беларусаў, іхнае бачаньне і чаканьні. Першыя інтэрвію падрыхтавалі ў 2020 годзе, акурат напярэдадні выбараў у жніўні, і прэзэнтацыя першай кнігі " адбылася тады ў лістападзе. Шмат дапамог Павал Белавус, стваральнік крамы Symbal.by, а цяпер палітвязень. Тады ўжо пачаліся рэпрэсіі, стала небясьпечна выказваць сваю апазыцыйнасьць, але заля ў Менску была поўная. Па назіраньнях прамоўцы, пераважная большасьць тых, хто выйшаў у жніўні і ўвосень 2020 году і карысталіся бел-чырвона-белым сьцягам, гербам "Пагоня" і поклічам "Жыве Беларусь" як сымбалямі пратэсту, часта ня ведалі і нават не задумваліся пра іх гісторыю і паходжаньне, пра іх каштоўнасьць як маркера нацыянальнай адметнасьці. Пазьней былі дваровыя сустрэчы, сьпевы, удзел у чатах і супольных імпрэзах – і вось тады тыя сымболі сталі напаўняцца нацыянальным зьместам, і шмат хто з падзівам даведваўся, што Беларусь такое мае. У людзей узьнікала цікавасьць. Гісторыкі прыходзілі зь лекцыямі, этнографы прыносілі артэфакты – адбылася экспрэс-адукацыя беларусаў, якія былі дасюль адрэзаныя рэжымам ад свай спадчыны й гісторыі. Людзі вастрэй адчулі свой агульны лёс, дакрануліся да пляча суседа, аднадумца. Гэта было рэвалюцыяй у сьведамасьці мноства людзей.




Цяпер, як лічыць сп. Лукашук, фактарам падзелу нацыі стаў факт, зьехаў чалавек, ці застаўся пасьля 2020 году. Раней падзел выклікалі такія рэчы як мова, стаўленьне да нацыянальных сымболяў. І цяперашні падзел, як уважае пісьменьнік Альгерд Бахарэвіч, небясьпечнейшы, бо ён застанецца нават пасьля таго, як "муры рухнуць". Па некаторых ацэнках, за мяжой пасьля 2020 году апынулася ад 500 тысяч (Валер Кавалеўскі) да 1 мільёну (Павел Лібер) беларусаў. Пачалася вайна ва Ўкраіне, яе цяпер бароняць таксама тысячы беларусаў. Таму гэты выпуск кнігі праекту атрымаў назву "Беларуская нацыянальная ідэя ў выгнаньні й на вайне". Першы выпуск быў больш скіраваны на тэорыю і гісторыю, другі – на адлюстраваньне настрою падзеяў 2020 г. Задумана ўжо і чацьвертая кніга сэрыі.

Сп. Лукашук прапанаваў разам абмяняцца думкамі, пагутарыць пра сваё бачаньне нацыянальнай ідэі і першай запрасіў у суразмоўцы й сувядучыя сп-ню Юляну Шаметавец, палітоляга і прадстаўніцу "Кібэрпартызанаў". Сп-ня Шаметавец заўважыла, што ў шырэйшым кантэксьце цяпер людзі ў Беларусі займаюцца выжываньнем. Але ёсьць і шмат пасіянараў, узяць хоць бы нашых вяроў ва Ўкраіне, што бяруць у палон расейцаў – калі такое было апошнім разам? Частка кібэрпартызанаў прынцыпова засталася ў Беларусі, і яны дзейнічаюць. Такія адданыя людзі цяпер фармуюць нацыю, тыя, хто рызыкуе самым дарагім і незваротным, што маюць – сваім жыцьцём. На думку Юляны, мы – нацыя ахвяраў, а не баязьліўцаў.

Сп. Лукашук адзначыў, што на яго моцна паўплывала лекцыя пра нацыянальную ідэю сп. Алеся Смаленчука, у прыватнасьці ягоныя словы пра Кастуся Каліноўскага. "Думаеце, Каліноўскі быў сьведамым беларусам? Сказаць так было б агістарычна. Ён разумеў, што для посьпеху паўстаньня трэба прыцягнуць сялянаў, таму была скарыстаная беларуская мова, рабіліся друкі на ёй, і Каліноўскі пачаў працу, захапіўся. Таму хутчэй можна сказаць, што беларуская нацыянальная ідэя сфармавала Кастуся Каліноўскага, чым наадварот".

Парадаксальна, што нават цяпер, дзе-нідзе яшчэ поруч зь белчырвона-белым сьцягам ужываюць і чырвона-зялёны. Як магло стацца, што сымболіка тэрору і перасьледу так лягла на сэрца – але так ёсьць, "гэта наш афіцыйны сьцяг, а гэта нацыянальны". Людзі спыніліся на паўдарозе, не прайшлі ўвесь шлях, але будзем спадзявацца, што гэта яшчэ не канец.

Сп-ня Шаметавец адзначыла, што гэта, напэўна, і ёсьць рэальны стан справаў, людзі ў роздуме, у працэсе, і два сьветапогляды яшчэ змагаюцца за душы.

Сп-ня Ганна Шарко падзялілася досьведам прыцягненьня людзей да беларускай культуры, традыцыяў і мовы. "Я лічу, нашай мэты можна дасягнуць толькі праз асьвету. Беларусы застаюцца падзеленыя, але гэты падзел трэба перадольваць". Трэба змушаць людзей задумвацца, аналізаваць. "Калі ты не пад гэтым сьцягам, дык хто ты?"

Затым сп. Лукашук запытаў прысутных, ці зьмены магчымыя. Сп-ня Шаметавец адказала, што, на яе думку, калі гэбраі адрадзілі мёртвую фактычна мову іўрыт, дык у нас сытуацыя яшчэ не такая безнадзейная. Тут ня можа быць гвалту, але пры належным разьвіцьці адукацыі, асьветы новае пакаленьне будзе мецъ усе ўмовы перайсьці на беларускую.

Затым сп. Лукашук вярнуўся да пытаньня падзелу сярод беларусаў, цяпер – палітычнага. Ён згадаў, што падчас сваіх падарожжаў па Эўропе назіраў, што тая або іншая беларуская грамада падзеленая на дзьве (за Ціханоўскую і супраць), а то і на тры часткі. А як з гэтым у Нью-Ёрку? На гэтае пытаньне паспрабаваў адказаць сп. Віталь Зайка зь Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Ён адзначыў, што як усе эўрапэйскія нацыі фармаваліся з рознародных кампанэнтаў, так і палітычнае кшталтаваньне

заканчэньне на бачыне 4

693_632.qxd 11/1/2023 10:24 PM Page 3 (3,2)



Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Аўген Калубовіч (Каханоўскі) - пісьменьнік, гісторык, палітык

Аўген Калубовіч (Каханоўскі), прэм'ер-міністар БНР, пісьменьнік, гісторык, пэдагог, вязень ГУЛАГу, нарадзіўся 5 сакавіка 1910 году ў ў мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага павету Магілёўскай губэрні.

У міжваенны час скончыў пачатковую школу ў сваім мястэчку, сямігодку ў Рэчыцы, а ў 1930 годзе – пэдтэхнікум у мястэчку Бабчын Хойніцкага раёну. 30 траўня 1930 г. Аўген Калубовіч быў арыштаваны за прыналежнасьць да падпольнай беларускай незалежніцкай арганізацыі, сказаны на 3 гады канцлягераў. Быў вязьнем Вішэрскіх лягераў, Дальлагу і Бамлагу.

У Беларусь ён вярнуўся ў 1933 г. Працаваў настаўнікам у Хойніцкім раёне; быў звольнены, тады адноўлены на працы з дапамогаю А. Чарвякова, старшыні ЦВК Беларусі – дапамог дырэктар школы, асабісты сябар Чарвякова. У 1934—1935 гг. Калубовіч выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Менску. У 1939 г. ён скончыў Менскі Пэдагагічны Інстытут, працаваў кансультантам-мэтадыстам у Наркамасьветы БССР.

З пачаткам савецка-нямецкай вайны быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. У канцы 1941 году трапіў пад Масквою ў акружэньне і ў нямецкі палон, зь якога затым вярнуўся ў Менск.

Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Беларускай рады даверу (1943), Беларускай Цэнтральнай Рады (1943-44). Быў старшынём Беларускага Культурнага Згуртаваньня, кіраўніком ягонага аддзелу культуры. Калубовіч быў арганізатарам і ўдзельнікам Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў чэрвені 1944 году, дзе выступіў з рэфэратам на тэму "Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах". У рэфэраце ён абгрунтаваў "правы беларускага народу на вольную, незалежную Бацькаўшчыну".



У сярэдзіне 1944 г. Калубовіч апынуўся ў Нямеччыне, выехаўшы з урадам БЦР і сем'ямі Кіпеляў, Куліковіча, Кушаля і Арсеньневай, А. Шукелойцем. З 1945 г. быў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, займаўся адукацыйнай дзейнасьцю: выкладаў філялогію ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (1945–1950), выдаў тры сшыткі "Паэтычнай стылістыкі" (пад псэўданімам А. Верасень). Таксама удзельнічаў у арганізацыі й працы Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рэгенсбургу. Дзеля таго, што ў тыя часы ў лягеры ды-пі наяжджалі савецкія "рэпатрыяцыйныя камісіі", Калубовіч мусіў зьмяніць прозьвішча на Каханоўскі, якім карыстаўся да канца жыцьця.

У сьнежні 1947 году ён увайшоў у склад Рады БНР і ад 15 жніўня 1948 году ўзначальваў Урад БНР у выгнаньні. Каб стварыць пэўную альтэрнатыву палітыцы прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, якую ён лічыў задужа прарасейскай, Каханоўскі спрабуе стварыць апазыцыю ў Радзе БНР і адраджае існаваўшую зь сярэдзіны 1940-х гадоў Беларускую Нацыянал-Дэмакратычную партыю і арганізоўвае Аб'яднаньне БНДП. Аднак канструктыўнай апазыцыі не атрымалася, і Аўген Каханоўскі пакінуў Раду БНР.

У 1950 г. Аўген Калубовіч перабраўся ў ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, а ў 1955 г. пераехаў у Кліўлэнд з другою жонкаю пісьменьніцаю Інай Рытар (Аляксандрай Саковіч), якая стала ягоным першым біёграфам. Калубовіч узначальваў Кліўлэндзкі аддзел БАЗА, выдаваў Бюлетэнь Злучанага Беларускага Камітэту ў Кліўлэньдзе. У 1953 г. арганізаваў выданьне бюлетэня "Абежнік Цэнтральнага Камітэту Аб'еднаньня Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў".

Аўген Калубовіч-Каханоўскі – аўтар успамінаў пра палітычныя рэпрэсіі 1930-х г. у Беларусі і таксама ўкладальнік, рэдактар і адзін з аўтараў зборніка "Янка Купала і Якуб Колас. 1882—1982: Вянок успамінаў пра іх" (1982). Дасьледаваў гісторыю Беларусі 20 ст. Ён захаваў традыцыю беларускай нацыянал-дэмакратыі, супрацьву саветызацыі й прасоўваньня ідэяў нацыянальнага адраджэньня і незалежнасьці Беларусі. Калубовіч-Каханоўскі таксама можа лічыцца пачынальнікам досьледаў беларускай эміграцыі й праблемаў новай беларускай дзяржаўнасьці (БНР і БССР).

Калубовіч – аўтар працаў "Мова ў гісторыі беларускага пісьменства", "Айцы БССР і іхны лёс", успамінаў "На крыжавой дарозе".

Памёр Яўген Калубовіч-Каханоўскі 25 траўня 1987 году.

**Віталь ЗАЙКА**

## Сустрэча зь З. Пазьняком

*заканчэньне з бачыны 1*

Менавіта Полк мае легітымнасьць, давер, засьведчаныя крывёй. Але і ў мірнай дзейнасьці ёсьць дзе прыкласьці сілы, ад грамадзкай актыўнасьці па дапамозе пацярпелым ад рэпрэсіяў, да ўдзелу ў стварэньні альтэрнатыўных падручнікаў, якія можна распаўсюджваць праз сеціва ды рознымі іншымі спосабамі.

Затым прамоўца спыніўся на пэўных дэталях стаўленьня да антыбеларускіх сілаў і прадстаўнікоў апазыцыі, якія ня маюць даверу. Ён выказаў шкадаваньне, што шмат якія структуры на Захадзе ня могуць зразумець, разьвіцьцё асобы ў сваёй культуры, на сваёй зямлі, са сваёй мовай – гэта і ёсьць дэмакратыя, а спрыяньне беларускай мове – гэта спрыяньне дэмакратыі. Сп. Пазьняк затым адказаў на некалькі пытаньняў прысутных.

У другой частцы імпрэзы сп. Зянон Пазьняк прэзэнтаваў сваю новую кнігу зборнік п'есаў "Грааль". У яго ўвайшлі тры п'есы, "Грааль", "Павел" і "Кветка шчасьця". Раней былі апублікаваныя чатыры п'есы з эвангельскіх дзеяў, "Ірад", "Хрыстос", "Юда" і "Пётра" са зборніку "Інсургенты". І вось цяпер п'еса "Павел" дапаўняе гэты эвангельскі цыкль. Усе гэтыя творы збудаваныя на ўзор сярэднявечных жанраў маралітэ, фантасмагоры й міракляў. Яны не ізаляваныя ў сваім часу, яны перакідаюць масток да сучаснасьці і змушаюць задумацца пра свой лёс, пра вечныя пытаньні, што стаяць перад чалавецтвам. Прамоўца прачытаў п'есу "Павел", якая была сустрэтая прысутнымі зь вялікай цікавасьцю.

На імпрэзе правялі збор сродкаў для "Вольнай Беларусі" дзеля набыцьця пікапа для Палку Каліноўскага, які ваюе супраць расейскіх агрэсараў.

**Віталь ЗАЙКА**

693_632.qxd 11/1/2023 10:23 PM Page 1 (1,1)






# Запрашаем на прэзэнтацыю
## літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2023 год,

якая заплянаваная на **10-га сьнежня 2023 году** ў грамадзкай залі сабору Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Ave***
***Brooklyn, NY 11217***

Пачатак імпрэзы **а 12.30** гадзіне папаўдні, там можна будзе набыць новы нумар па зьніжанаму кошту. Падтымайце аўтараў і выдаўцоў сваёй зацікаўленасьцю.

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША і Канады **$22**, з дасылкаю ў краіны Эўропы **$25**. Дасылка ў Беларусь, Украіну й Расею сёньня, немагчымая.

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

Новы выпуск альманах “Беларус” пасьля выхаду ў сьвет можна будзе замовіць на ўэб-сайце ***e-krama.com.*** Там жа можна набыць і ўсе папярэднія нумары альманаха, пачынаючы ад 2007 году, а таксама беларускія кнігі і календар Згуртаваньня “Пагоня”.

## Шаноўнае спадарства!

Беларускі добраахвотнік Палка Каліноўскага **Зьміцер** прыехаў лячыцца ў ЗША, дзякуючы фонду **Revived Soldiers Ukraine!** (поўнае імя не раскрываецца ў мэтах бясьпекі ягоных блізкіх у Беларусі). Зьміцер бараніў народ Украіны ад расейскіх акупантаў, але быў цяжка паранены ў нагу і руку пад Бахмутам у студзені 2023 году. Нейкі час ён лекаваўся ў Польшчы, але вынікаў асаблівых не было, зараз будзе лячэньне ў ЗША. Каб пакрыць гэтыя выдаткі патрэбна сума ў $25000. Асацыяцыя Беларусаў у Амэрыцы адкрывае асобны збор, сродкі якога будуць перададзены Фонду Revived Soldiers на лячэньне нашага земляка. Калі ласка, падтрымайце яго, і гэтым мы пакажам сілу нашай беларускай салідарнасьці! Ахвяраваць на збор можна на ўэб-сайце з адрасам: ***https://aba-together.org/aba-affiliated***

На гэтым жа сайце ёсьць спасылкі на іншыя зборы і ініцыятывы, адкрытыя беларускімі актывістамі.

## Сустрэча са З. Лукашуком

***заканчэньне з бачыны 2***

іх ішло праз узаемадзеяньне розных сэгмэнтаў. Тое не абмінула і беларусаў. Да таго ж грамада на эміграцыі адлюстроўвае стан справаў на Бацькаўшчыне, і спрэчкі адтуль могуць пераносіцца сюды. Але, безумоўна, галоўным прынцыпам мусіць быць прыярытэт агульнанацыянальных інтарэсаў над прыватнымі. Дасягнуць гэтага нялёгка, але трэба імкнуцца ды ісьці на кампрамісы.

З. Лукашук дадаў, што як казаў Уладзімер Някляеў на сустрэчы ў Грузіі, мы можам займацца ўласным жыцьцём, але ніколі ня можам выходзіць за межы беларускай павесткі. Гэта можна рабіць па-рознаму – праз сьпевы, выцінанкі, танцы, краязнаўства, традыцыі і сьвяты. “Трэба заставацца ў беларускім космасе, і хай ён захопіць усю прастору!”

У дыскусіі таксама бралі ўдзел сп-ня Натальля Ка і сп. Гэнік Лойка. Галоўная тэма сустрэчы захапіла ўсіх прысутных. У канцы яны маглі набыць кнігу Зьмітра Лукашука і атрымаць аўтограф.

Арганізацыя туру сп. Зьмітра Лукашука, у рамках якога прайшла сустрэча ў Нью-Ёрку, стала магчымай пры дапамозе Асацыяцыі Беларусаў у Амэрыцы (АБА) і дзіцячай бібліятэкі “Літарка”.

**Віталь ЗАЙКА**

Аб імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”, а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку “Пагоні” ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/ 134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**В. Лукін ....................30**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

## Шаноўныя сябры!

Калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на наш інфармацыйны бюлетэнь ***“Весткі й Паведамленьні”.***

*Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на адрасной налепцы на канвэрце справа ад прозьвішча.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*